
НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№ 6 (152) КРАСАВІК 2013 ГОД


ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ЖЫЦЦЁ НА ВЭКСЕЛЬ, А ЗАМЕСТ ПАЛУЧКІ – КАЎБАСА

**Паводле паведамлення партала TUT. BY на днях работнікам ААТ "Глыбоцкі Аграсэрвіс" частку заробкаў выплацілі каўбасой. Падобна на тое, што кіраўнікі некаторых прадпрыемстваў вяртаюцца да практыкі пачатку 90-х гадоў, калі такая з'ява была распаўсюджана па ўсёй краіне. На многіх прадпрыемствах няма чым плаціць зарплату і работнікам дазволілі браць прадукты у мясцовых крамах у доўг. Але да гэтага яны бралі ў кошт зарплаты па ўласным жаданні.**

Самае прыкрае ў гэтых ініцыятывах мясцовых уладаў тое, што падобная практыка падаецца як клопат аб народзе. Не сакрэт, што ў многіх рэгіёнах Беларусі, у тым ліку і ў нашым раёне выдаюць тавары першай неабходнасці ў доўг. За апошнія гады ўлады вымушаны былі пайсці на гэты крок. Бо ва ўмовах 2-4 кратнага росту коштаў яны не прыдумалі нічога лепшага, каб зняць сацыяльную напружанасць. У некаторых раёнах, напрыклад на Слонімшчыне, дайшлі да таго, што "ўдасканалілі" сістэму продажу тавараў першай неабходнасці. У памерах 300 тысяч рублёў дазволілі гэтак званы крэдыт, на які можна набыць у мясцовых крамах тавары паўсядзённага попыту, акрамя тытуню і алкаголю.

Неспрыяльная сітуацыя на валютна-фінансавым рынку, несвоечасовая выдача зарплаты прымушае чыноўнікаў зноў ісці на папуліцкія меры. Факты сведчаць аб тым, што справа іншым разам даходзіць да абсурду. У мінулым годзе на Глыбоччыне частку заробку прадукцыяй мясакамбіната ўжо атрымлівалі работнікі ААТ "Канстанцінаў Двор". А прымусіць купляць прадукты ў сваёй краме спрабавалі работнікаў спажывецкай кааперацыі. Быў выпадак, калі частку заробку работнікам глыбоцкага гаргазу ў мінулым месяцы выдалі цяплічным грунтам. Яшчэ пару месяцаў таму даяркам філіяла "Каралі" частку заробку выдалі канцэнтраваным малаком. Натуральна, але факт – рабочыя абураліся. Па-першае, заробкі ў райцэнтрах і на сяле невялікія (каля 1,5 – 2 млн. рублёў), але і з гэтых сум іх прымушаюць купляць прадукцыю, незапатрабаваную на рынку. Па-другое, гэта з'яўляецца парушэннем працоўнага заканадаўства, адначасова ёсць парушэнне правоў як спажыўцоў, так і пакупнікоў.

Увогуле, як кажуць самі жыхары рэгіёнаў, жыццё "на вэксель" даўно зрабілася звыклай нормай. Невядома, як дажывалі б да чарговай палучкі працаўнікі і шумілінскіх сельгаспрадпрыемстваў, калі б улады не дазволілі славуты "сшытак пазыкі" ў крамах нашага раёна. Нягледзячы на афіцыйныя забароны, на пазыку ў вясковых крамах даюць і танны алкаголь. Улады ўсё роўна глядзяць на гэта скрозь пальцы – без п'яных даходаў ад продажу "чарніла" раённыя бюджэты могуць абрынуцца. Чым тады выплочваць заробкі бюджэтнікам? Праўда, ад нашэсця хранічных п'яніц пазбаўляюцца самі прадаўцы. Часам непрыемна назіраць, як вясковы дзяцюк "пасля ўчарашняга" псуе нервы жанчыне-прадаўцу, назойліва патрабуючы даць яму заветную бутэльку ў доўг. Але ж такіх у вёсцы ведаюць і заносяць у "чорныя спісы". Прынамсі, наколькі ўсё ж адрозніваецца праца вясковага гандлёвага работніка ад гарадскога ў гэтай самай "славутай і найбольш балючай" сферы ўзаемаадносін прадаўца і пакупніка. На вёсцы ён, як правіла, свой, мясцовы, і заднавяскоўцамі яго звязвае мноства зносін. Усе ведаюць, якая ў яго сям'я, наколькі ён гаспадарлівы, або наадварот – паходзіць з нядобранадзейнага кантынгенту. Да таго ж у кожнай гаспадарцы кіраўніцва папярэджвае, што неплацёжаздольным людзям крэдыт лепш не даваць. Ды і навошта прадаўцу ўвязвацца ў такое, калі падчас праверак можна заплаціць за нядбайнага даўжніка са свайго кішэні? І як потым заставіць п'яніцу вярнуць даўгі?

Як бы там ні было, але па-ранейшаму гандаль "на сшытак" з'яўляецца ратавальнай мерай для добра "падмочанага" аўтарытэту цяперашніх уладаў. Дастаткова толькі прывесці адну лічбу: больш за 30 літраў спіртнога ў год і па краіне, і па раёну – гэта безумоўна іх "заслугі". Так электаратам лягчэй кіраваць. Больш за тое, такім чынам хутчэй можна адабраць назад у бюджэт тыя сціплыя заробкі, якія і без таго несвоечасова выплочваюць.

**Аляксандр Шчамлёў**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## УСЯГО НЕКАЛЬКІ ЗВАНКОЎ

**На чарговую прамую лінію, якую праводзіў дэпутат "Палаткі" Уладзімір Шыцько патэлефанавалі ўсяго некалькі чалавек. Асабістага прыёму на гэты раз не было. Як і заўсёды, людзей хвалявалі надзённыя праблемы, якія могуць узнікнуць у кожнага з нас.**

Многія пытанні з большага былі ўжо вырашаны, аднак засталося нямала недапрацовак. Так, у гарпасёлку Обаль нарэшце ўстанавілі новую свідравіну, і на верхніх паверхах дамоў з'явілася доўгачаканая вада. Але людзі ўсё роўна не супакоіліся, пакуль яшчэ ідуць завяршальныя работы, і дзе-нідзе ўзнікаюць перабоі с падачай вады. Адна жанчына пазваніла з Обалі,таму дэпутат павінен быў даць чарговае абяцанне, што хутка праблем з пітной вадой зусім не будзе. Быў яшчэ адзін званок з гарпасёлка – дачка клапацілася за бацьку, інваліда другой групы. "Бясплатная" медыцына ў сацыяльна-арыентаванай дзяржаве не ў стане забяспечыць неабходную аперацыю па замене сустава. Патрабуюцца дзесяткі мільёнаў рублёў, такіх грошай сям'я не мае, а ў бясплатнай медыцынскай дапамозе адмовілі. Дэпутат выслухаў і абяцаў дапамагчы. Магчыма, яму ўдасца выйсці на ўзровень Міністэрства аховы здароўя.

Яшчэ адзін званок асабістага характару паступіў з вёсцы Мішкавічы. Адну жанчыну хвалявала пытанне хуткай рэарганізацыі школы са статуса сярэдняй у базавую. Але тут нічога не зробіш, вёска старэе, дзяцей з кожным годам нараджаецца ўсё меней. У гэтым выпадку Уладзімір Шыцько ніякіх абяцанняў даваць не спяшаўся, а пераадрасаваў пытанне начальніку раённага аддзела адукацыі Пятру Спірыдонаву.

Яшчэ ў сваёй прадвыбарчай праграме Уладзімір Уладзіміравіч абяцаў жыць праблемамі простых людзей. Аб гэтым сведчаць яго меркаванні, якімі ён падзяліўся з настаўнікамі раёна. Як былы педагог са стажам дэпутат лічыць, што вясковыя настаўнікі зараз маюць магчымасць зарабляць чатыры-пяць, а то і шэсць мільёнаў рублёў. А скаргі на перагружанасць лішнімі паперамі неабгрунтаваныя. Толькі не зусім зразумела, чаму як з вясковых школак, так і са школ райцэнтра бягуць маладыя спецыялісты, а працаваць застаюцца работнікі перадпенсійнага і пенсіянага ўзросту?

**С. Горкі**

ЭКАЛОГІЯ

## ЗАМЕСТ ПАЛІГОНУ – ЗВЫЧАЙНАЕ СМЕТНІШЧА

**Нядаўна раённая інспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя правяла экалагічны рэйд, праверыла стан палігонаў, на якіх захоўваюцца цвёрдыя камунальныя адходы. Падчас рэйдаў узнікла нямала пытанняў, звязаных з арганізацыяй іх вывазу, мінімізацыі сеткі міні-палігонаў і ўвогуле ўтылізацыі адходаў. За парушэнні ў рабоце з адыходамі некаторыя службовыя асобы былі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.**

Утылізацыя цвёрдых бытавых адходаў, бадай што, самае злабадзённае пытанне, аб якое ўлады штогод спатыкаюцца. Народная прымаўка: "Гладка было на паперы, ды забыліся пра яры, а праз іх хадзіць…"– будзе заўжды актуальна ў раёне. Бо колькі б чыноўнікі не змагаліся за навядзенне парадку на зямлі – прыроду яшчэ ніхто не падмануў. Штодзень каля кантэйнераў у дварах шматпавярховых кварталаў пасёлкаў, на пад'ездах да міні-палігонаў, на абочынах дарог у бліжэйшых да населеных пунктаў лясных масівах, на аўтобусных прыпынках мы бачым шмат смецця, у мяшках і ў россып.

Канечне, у параўнанні з мінулымі гадамі, відавочна, што стан палігонаў паляпшаецца, але пралікі і недапрацоўкі ўсё ж такі застаюцца. Як і раней, можна казаць аб тыповых парушэннях: своечасова не праводзіцца падбуртоўка смецця, парушаецца абвалоўка, да некаторых палігонаў дрэнныя пад'езды. Адсутнічаюць аншлагі, стан палігонаў не кантралюецца. Экологі рэкамендуюць перагледзець схему размяшчэння міні-палігонаў, аптымізаваць іх колькасць з наступнай рэкультывацыяй. А колькі па ўсяго раёну несанкцыянаваных звалак? Ды і тыя ж міні-палігоны, па сутнасці і ёсць вялікія звычайныя сметнішчы. Да прыкладу, толькі на тэрыторыі Дабейскага сельсавета іх налічваецца больш за два дзесяткі.

Палігон цвёрдых бытавых адходаў гарпасёлка Шуміліна па-ранейшаму большую частку смецця не здольны перапрацоўваць. Не стае грошай на абсталяванне. Кантралёры заўважылі цэлыя горы пластыкавых бутэлек, якія ве́рагодна ўтрамбуюць і закапаюць. Побач таксама насыпана мноства шкляных бутэлек, паперы, кардонныя каробкі – больш каштоўная сыравіна, якую аднак не складзіравалі і, па ўсяму відаць, здаваць на смеццеперапрацоўчы завод не збіраюцца. Навошта тады шумілінскія камунальнікі ўстанавілі 190 кантэйнераў для раздзельнага збору смецця, а жыхары іх збіралі асобна? Відавочна, што УП ЖКГ не справілася з ускладзенымі на іх абавязкамі па збору другаснай сыравіны. Начальнік інспекцыі Генадзь Кісялевіч заўважыў, што і на Обальскім палігоне сітуацыя не лепшая. Нямала нараканняў было і ў бок у шумілінскага райспажыўтаварыства. Дагэтуль не арганізавалі закупку макулатуры і пластыкаў юрыдычных асоб, ад грамадзян прымаюць нерэгулярна.

Вось і выходзіць, што калі ўвесь цывілізаваны свет зарабляе грошы на другаснай сыравіне, то ў нас гэтыя грошы па-ранейшаму закопваюць у зямлю.

**С. Горкі**

ЖЫВІ ЧЭСНА!

## УКРАЛІ ЭЛЕКТРАЭНЕРГІЮ? ЗАПЛАЦІЦЕ Ў 5 РАЗОЎ БОЛЬШ

**У чарговы раз раённая энергаінспекцыя нагадвае пра небяспеку электрычнасці пры парушэнні элементарных правілаў і нормаў карыстання электрычнай энергіяй у быце. У час прафілактычных аглядаў бытавых электраўстановак пастаянна выяўляюцца грубыя парушэнні тэхнічнага стану, якія нясуць пагрозу жыццю і здароўю людзей, правакуюць узнікненне пажараў.**

Адным з грубых парушэнняў з года ў год з'яўляецца крадзеж электраэнергіі. Часта крадзеж адбываецца шляхам накідаў часовых электраправадак на ўводныя прылады электраўстановак, мантаж адпаек і скрытых электраправодак, якія праходзяць па-за прыборамі ўліку электраэнергіі і засцерагальных прылад. Зразумела, што падобныя факты выяўляюцца і наступаюць моманты кампенсацыі страт арганізацыі, якая забяспечвае электраэнергіяй, і выплаты штрафу ў пяцікратным памеры ад сумы нанесеных страт.

Прадстаўнікамі энергазабяспечваючай арганізацыі ў мінулым годзе ў раёне выяўлена 30 фактаў крадзяжу электрычнай энергіі ў быце, агульная сума выяўленых страт склала 11,14 мільёна рублёў. Па ўсіх фактах парушальнікі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, агульная сума штрафных санкцый склала 19,84 мільёнаў рублёў. Толькі вось вялікі штраф не заўсёды спыняе, і некаторыя грамадзяне могуць двойчы за год парушыць закон. Таму зноў хочацца нагадаць: пакаранне непазбежна, і чым больш працягваецца крадзеж электраэнергіі, тым большая сума "выплыве". Тым больш, што з увядзеннем з 1 лютага дыферэнцыраванай аплаты паслуг, страты энергазабяспечваючай арганізацыі кампенсуюцца па поўнаму кошту.

**Я. ЛЕБЕДЗЕЎ, начальнік раённай энергаінспекцыі "Герой працы"**

## Аб'ява

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.

*********

Рэдакцыя « Світанка » змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.

*********

Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».

*********

Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам

## "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html , што у каталогу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'ялення газеты на паперы.

ПРАВАПАРАДАК

# ПРЫГОДЫ ВЫПІВОХ РАЗГЛЯДАЛІ НА КАМІСІІ

**На апошнім пасяджэнні грамадскага пункта аховы парадку разглядаліся непрыстойныя паводзіны дарослых правапарушальнікаў. Камісія на чале з намеснікам старшыні райвыканкама Анатолем Зайцавым запрасіла на размову тых грамадзян, якія злоўжываюць спіртнымі напоямі і вядуць асацыяльны лад жыцця.**

Непасрэдная работа з парушальнікамі грамадскага парадку пачалася з тых жыхароў раёна, якія ўжо знаходзіліся пад арыштам ад трох да сямі сутак. Выхаваўчая работа з грамадзянамі, здольнымі на супрацьпраўныя дзеянні, праводзілася комплексна, выкліканых прасілі растлумачыць недастойныя паводзіны, выяўлялі прычыны неўладкаванага жыцця. Бадай што, прычынай усіх выпадках сямейных скандалаў, учыненых мужчынамі стала злоўжыванне алкаголем. Адзін грамадзянін так напіўся, што зваліўся з веласіпеда і заснуў на дарозе, дзе быў і падабраны супрацоўнікімі міліцыі. Двое іншых учынілі п'яныя разборкі ў сям'і. Прычым амаральныя паводзіны і скандалы ў сем'ях не першы раз сталі падставай для сур'ёзных гутарак гэтых грамадзян з адказнымі асобамі. Аднак, як паказала практыка, некаторыя з гэтых людзей часта становяцца ўдзельнікамі падобных пасяджэнняў, панеслі спагнанні, але так і не навучыліся нармальнаму жыццю. "Я змянюся да лепшага, уладкуюся на працу", – гэтым абяцанням ужо ніхто не верыць. Таму для гэтых антыгерояў пастаўлена пытанне аб накіраванні ў лячэбна-працоўны прафілакторый.

35 гадовы грамадзянін В., які судом быў накіраваны ў лячэбна-працоўны прафілакторый, таксама прысутнічаў на камісіі. На гэты раз яму давялося пагадзіцца, што ўсе ранейшыя адгаворкі – маўляў, алкаголікам сябе не лічыць і зможа сам кінуць піць – аказаліся дарэмнымі. Цяпер яго паводзіны будуць кантраляваць ва ўстанове прымусовага лячэння ад алкагольнай залежнасці.

Зусім малады чалавек папаўся за рулём аўтамабіля ў нецвярозым стане. Было заўважана, што трапіў на "разбор" выпадкова, ад недарэчнага ўчынку, чырванеў, прасіў прабачэння, імкнуўся як мага хутчэй пазбавіцца такой ганьбы - апраўдвацца за свае паводзіны перад адказнымі асобамі. Аднак вадзіцельскіх правоў пазбавілі і пакаралі буйным штрафам. Бо п'яны вадзіцель за рулём – гэта патэнцыйны злачынца.

Прысутнічалі на камісіі і трое грамадзян, якія ўжо учынілі крымінальнае злачынства, былі за гэта за гэта пакараны, а затым вызваліліся з месцаў пазбаўлення волі. Аднак, па ўсяму відаць, да прыстойнага жыцця так і не прызвычаіліся. Нідзе не працуюць, невядома, за якія сродкі існуюць. Кінуць іх без назірання нельга – зноў трапяць у турму. Таму ім былі прапанаваны свабодныя вакансіі, якіх у раёне хапае. Але хто з кіраўнікоў гаспадарак захоча ўзяць на працу людзей з крымінальным мінулым? Сваіх лайдакоў хапае.

Грамадскія пункты аховы правапарадку, што працуюць пры выканкамах, надзелены шырокім колам паўнамоцтваў. Але галоўная іх задача дапамагчы такім вось людзям, каардынацыя дзеянняў, структур, якія працуюць дзеля прафілактыкі злачынстваў і падтрымання правапарадку. Як правіла, нярэдка правапарушальнікі аўтаматычна становяцца крымінальнікамі.

Таму на пасяджэнні грамадскага пункта аховы правапарадку раз у месяц, а то і часцей разглядаюць справы сямейных скандалістаў, парушальнікаў правіл дарожнага руху і пажарнай бяспекі, аматараў прагуляцца п'янымі ў грамадскіх месцах, самагоншчыкаў, бацькоў-п'яніц, "бязрукіх" гаспадароў захламленых сядзіб і падворкаў. Асобныя з іх на савеце не першы раз, як кажуць, набылі статус "штатнікаў". На жаль, нават пасля сур'ёзнай размовы з членамі савета грамадскага пункта аховы парадку не ўсе ўдзель¬нікі пасяджэння разумеюць, наколькі небяспечным з'яўляецца іх сацыяльнае становішча, што трэба мяняцца, і не на словах, а на справе. Некаторыя парушальнікі грамадскага парадку ўсё роўна не прызнаюць сябе вінаватымі перад грамадствам, суседзямі, роднымі і блізкімі. Бывае і так, што знаходзяцца сярод іх і такія, хто не саромеецца прыйсці на пасяджэнне ў нецвярозым стане. Тым не менш, прафілактычная работа дапамагае дасягнуць канкрэтных вынікаў. Некаторыя грамадзяне знаходзяць працу, лечацца ад залежнасці, або кадзіруюцца ў нарколагаў. У цяжкіх выпадках іх накіроўваюць у прафілакторый, каб не перашкаджалі жыць прыстойным грамадзянам.

**Алесь Шумскі**

КУЛЬТУРНАЯ ПАДЗЕЯ

# НАТХНЕННЕ ДА НОВЫХ ВОБРАЗАЎ

**У Шумілінскую раённую бібліятэку былі запрошаны ўдзельнікі творчай імпрэзы. Сапраўдным адкрыццём для прысутных стала творчасць віцебскага паэта Барыса Бэляжэнка, які пазнаёміў усіх са сваімі вершамі. У чытальнай зале сабраліся старэйшыя школьнікі, пенсіянеры, мясцовая інтэлігенцыя.**

Прыхільнікі паэзіі даведаліся пра біяграфію, творчыя здабыткі і напрамкі паэтычнай дзейнасці аўтара некалькіх зборнікаў вершаў, сябра грамадскага аб'яднанання "Саюз пісьменнікаў Беларусі", лаўрэата прэміі Уладзіміра Караткевіча Барыса Беляжэнкі. Паэт нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Промыслы Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і служачага. Пасля заканчэння школы працаваў старшым піянерважатым Навікоўскай сярэдняй школы Шумілінскага раёна (1955-1957). У 1965 годзе скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Друкуецца з 1958 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Крыгалом» (1973), «Жытнёвае поле» (1977). У 1977 г. у часопісе «Маладосць» апублікаваў паэму «Свята пумы», у 1988 г. у газеце "Віцебскі рабочы" скарочаны варыянт аповесці "Каляровыя фотакарткі".

Віцебскі госць зацікавіў шумілінцаўнетолькіякталенавіты паэт, але і як цікавы чалавек, жыццёвым крэдам якога сталі словы аднаго лірычнага героя: "Змагайся Барыс і не бойся". Таксама як знакаміты пісьменнік Аляксандр Салжаніцын у свой час казаў: "Жыць не па хлусні", гэтак жа і паэзія Барыса Беліжэнкі мае вялікі падтэкст – жыць па сумленні, па шчырасці. Так, паэзія - гэта лёс. Тут няма гульні, трэба быць шчырым, сапраўдным, прамым, заўжды даваць волю сваім пачуццям, не хаваючы іх.

Сам аўтар добра чытае свае вершы па-расейску і па-беларуску. Паэзія – гэта не толькі радасць творчасці, але і работа, цяжкая, адказная, незвычайна сумленная. Не усім яна пад сілу, але ж у душы ёсць патрэба выказаць думку паэтычна, метафарычна, быць пачутым ва ўсіх. Вершы Барыса Бэлажэнкі пачуты і шумілінскім кампазітарам Анатолем Міхеевым. Найбольш мілагучныя пакладзены на музыку. Дарэчы, на вечарыне выконвалі песні "Зайграй гармонік", Купальскія вянкі" і іншыя.

Сустрэча з паэзіяй - свята, а паслухаць творы ў выкананні самога аўтара - гэта свята ўдвая. Людзі розных прафесій, роду заняткаў – яны літаральна за адзін вечар аб'яднаны прыхільнасцю да паэзіі. А творы паэта – гэта адкрытыя сэрцы, якія прагнуць любові да ўсяго акружаючага, дабрыні і павагі паміж людзей. Таму не выпадкова Барыс Беліжэнка піша не толькі вершы, але і працуе над аповесцю "Таямніцы Цяпінскага ўзгорку", рыхтуе выдаць яе асобнай кнігай. Імпрэза падарыла прысутным незабыўныя хвіліны цёплай і шчырай размовы, магчымасць дакрануцца да жывога паэтычнага слова і аўтографы на сваіх паэтычных зборніках.

**Уладзімір Амбросаў**

ГРАМАДСТВА І ЗАКОН

# ДАПАМАГЧЫ ГОРА-БАЦЬКАМ І ЦЯЖКІМ ПАДЛЕТКАМ

**У Мікіціхінскай сярэдняй школе прайшло мерапрыемства, накіраванае на прафілактыку безнагляднасці і правапарушэнняў непаўналетніх, абарону іх правоў і законных інтарэсаў. Прадстаўнікі камісіі па справах непаўналетніх райвыканкама выступілі перад вучнямі, бацькамі і настаўнікамі, работнікамі клубных устаноў раёна.**

Гаворка вялася вакол падлеткавай злачыннасці. Нягледзячы на плённае супрацоўніцтва ўсіх структур соцыуму раёна, колькасць нядобранадзейных сем'яў, сацыяльных сірот, падлеткаў, якія ўчынілі правапарушэнні і крымінальныя злачынствы, а таксама тых маладзёнаў, які нідзе не вучацца і не працуюць не змяншаецца. Прынамсі, аб акалічнасцях спрыяльнага росту злачыннасці казаў кіраўнік раёна Уладзімір Куранны на пасяджэнні райвыканкама яшчэ напрыканцы студзеня бягучага года. У прыватнасці, ён адзначыў, што узровень злачыннасці ў раёне вельмі высокі: 134,7 злачынства на 10 тысяч насельніцтва (у вобласці – 102,5). Адсутнасць належнай дысцыпліны, бяспечныя адносіны некаторых спецыялістаў ды і грамадзян да сваёй уласнасці, п'янства на рабочым месцы і ў быту – менавіта гэтыя фактары садзейнічаюць злачыннасці.

У мінулым годзе ў Шумілінскім раёне было здзейснена 260 злачынстваў – гэта трывожны сімптом. Як і той факт, што вырасла падлеткавая злачыннасць: з 13 выпадкаў у 2011 годзе да 18 у 2012. Прычым гэта не толькі крадзяжы, але і забойствы, наўмыснае прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў, разбойныя нападзенні.

Паводле афіцыйных даных, за мінулы год на камісіі па справах непаўналетніх было разгледжана каля сотні адміністрацыйных пратаколаў. Сярод правапарушэнняў, учыненых падлеткамі, найбольш былі распаўсюджаны распіццё спіртных напояў, з'яўленне ў грамадскіх месцах у нецвярозым выглядзе, а таксама знаходжанне на вуліцы пасля 23 гадзін без суправаджэння дарослых.

На сённяшні дзень камісія па справах непаўналетніх ¬¬ гэта дзяржаўны орган, які працуе на грамадскіх пачатках. У склад нашай раённай камісіі сёння ўваходзіць больш дзесятка спецыялістаў, якія займаюцца абаронай праў дзяцей і прафілактыкай правапарушэнняў і злачынстваў сярод непаўналетніх. Гэта спецыялісты аддзела адукацыі, сацыяльнай абароны, культуры, аховы здароўя, міліцыі, прадстаўнікі аддзела па справах моладзі.

Прысутныя ў зале, ў тым ліку і школьнікі задавалі пытанні раённым юрыстам. Юныя грамадзяне цікаваліся, якія меры пакарання могуць быць за распіццё піва, за нанясенне цялесных пашкоджанняў, з якога ўзросту можна кіраваць скутарам ці мапедам і іншыя пытанні. За гады работы спецыялісты заўважылі, што неспрыяльныя сем'і чымсьці падобныя адна на адну. Інтарэсы дзяцей у іх адступаюць на другі-трэці план, на першы выступае гарэлка і разбэшчанасць. Але дзяржава ў асобе органаў мясцовага самакіравання не можа дазволіць, каб дзеці былі пакінуты на волю лёсу, не мелі паўнацэннага харчавання, адзення, нармальных умоў для вучобы. У якасці прыкладу настаўнікі Мікіціхінскай школы расказалі аб адной з вучаніц, якую маці прывезла з Віцебска. Пакінуўшы дзіця ў бабулі, сама нібыта займаецца "бізнэсам" на віцебскім рынку. Якая гаворка можа ісці пра работу, калі дзяўчынцы не набылі нават пісьмовы стол, каб яна магла падрыхтавацца да заняткаў? Гэтай жанчыне пакуль далі тэрмін на выпраўленне. У далейшым можа і з'явіцца жаданне змяніць жыццё ў лепшы бок. Праўда, калі ёсць каму падштурхнуць…

**Я. Вайтовіч**

АНАМАЛЬНАЯ ВЯСНА

# НЕБЯСПЕКА ПАВОДКІ ЁСЦЬ І НА ШУМІЛІНШЧЫНЕ

**Падчас сёлетняй веснавой паводкі ёсьць верагоднасьць падтаплення 130 жылых і вытворчых будынкаў у дзесяці раёнах Віцебшчыны. У зоне рызыкі апынуўся і Шумілінскі раён. Пра гэта паведаміў начальнік абласнога ўпраўлення МНС Васіль Чакан.**

Паводле яго слоў больш за ўсё аб'ектаў можа быць падтоплена ў Верхнядзвінскім, Бешанковічскім, Шаркаўшчынскім, Міёрскім, Лепельскім, Лёзненскім, Полацкім, Гарадоцкім, Аршанскім і Шумілінскім раёнах.

Вясенняя паводка ў гэтым годзе, паводле прагнозаў, чакаецца вышэй за сярэднюю, асабліва калі будуць ападкі, а вясна прыйдзе дружная. Масавае ўскрыццё рэк чакаецца ў канцы сакавіка – пачатку красавіка. Пры гэтым узровень вады чакаецца вышэй на 60 см за сярэднія шматгадовыя значэнні. Цяпер глеба не вельмі прамерзла – на 5-10 сантыметраў, але моцна ўвільготненая. Таму няшмат талай вады прасочыцца ў глебу – гэта таксама ўплывае на вышыню вясенняй паводкі. Даныя сведчаць аб тым, што ўзровень снегу ў вярхоўях Заходняй Дзвіны і Дняпра дасягае 60 см, вялікая колькасць ападкаў назіраецца сёлета і ў лясах.

Падвышаная ўвага надаецца правядзенню тлумачальнай працы сярод насельніцтва, якое пражывае ў зоне патэнцыйнага падтаплення. Так, жыхары "праблемных" падворкаў, размешчаных ў зоне верагоднага падтаплення, ужо апавешчаны аб існуючай пагрозе. Усе заключылі дагаворы добраахвотнага страхавання маёмасці ў выпадку надзвычайнага здарэння. Звычайна веснавая паводка значных бедстваў жыхарам Шумілінщчыны не чыніць.

Галоўнае - забяспечыць бесперашкодны пропуск вады, не дапусціць ледзяных затораў. 3 гэтай мэтай ужо 1 красавіка супрацоўнікі МНС зрабілі першы выбух ледзяного пакрыцця на рацэ Чарніца ў Лёзненскім раёне. На рэках Заходняя Дзвіна, Дзісна і Ула ў плане яшчэ каля 16 месцаў (пры неабходнасці).

Паводле кіраўніка ведамства Васіля Чакана, у паводкавы перыяд вялікая ўвага заўсёды надаецца стану ачышчальных збудаванняў жывёлагадоўчых комплексаў, дамбаў і вадасховішчаў. Тут ажыццяўляецца кругласутачны маніторынг з боку сельскіх выканаўчых камітэтаў. На сённяшні дзень на Віцебшчыне дзейнічаюць 10 выратавальных станцый, 25 выратавальных пастоў Асвода, адна пошукавая служба. Супрацоўнікі дадзенай арганізацыі вядуць сур'ёзную прафілактычную працу: у працоўных калектывах ўжо праведзена 470 гутарак, у школах – 151. Апроч таго, наладжана добрая сістэма абвесткі і інфармавання, праведзены камандна-штабныя трэніроўкі, адрэгулявана методыка перакідання тэхнікі ў раёны. Праца будзе весціся ў кругласутачным рэжыме. Увогуле, усё зацікаўленыя службы гатовы да паводкі.

**Алесь Прыбярэжны**

БЕЛАРУСЬ І ЭЎРАЗВЯЗ

# МІЛІНКЕВІЧ ЗА ПАКРОКАВЫ ДЫЯЛОГ БЕЛАРУСІ І ЕС

**9 красавіка ў Еўрапейскім парламенце зладзілі канферэнцыю, прысвечаную Беларусі. Абмяркоўваліся перспектывы беларуска-еўрапейскіх стасункаў.**

Падчас дэбатаў у Бруселі выступіў таксама лідар Руху "За Свабоду" Аляксандр Мілінкевіч.

Ён канстатаваў, што Еўропа стамілася ад беларускага пытання: "З аднаго боку рэжым не дэмакратызуецца, але слабее, аднак пры гэтым і ўплыў дэмакратаў не павялічваецца. Абсалютная большасць беларусаў выступае за перамены, але не ведае хто і як іх можа ажыццявіць".

У гэтых умовах, пераканаы Аляксандр Мілінкевіч, няма пазітыўнай альтэрнатывы абумоўленаму і крытычнаму дыялогу з Еўрасаюзам: "Ён не гарантыя, але шанец захаваць для Беларусі еўрапейскую перспектыву. Санкцыі ЕС не вызваляюць палітвязняў, павялічваюць антызаходнія настроі, памяншаюць уплыў дэмакратаў, паскараюць эканамічную анексію з боку Расіі".

Крытыкам палітыкі дыялогу Мілінкевіч нагадаў: "У сучаснай гісторыі Беларусі вязні сумлення выходзілі з турмы не ў выніку санкцый, а пасля візітаў Саланы і Младзенава, якія меліся распачаць дыялог. Падчас першай спробы дыялогу ў 2008-2010 годах палітычныя рэпрэсіі зменшыліся больш як у тры разы, значна ўзмацніліся праеўрапейскія настроі беларусаў, пашырыўся уплыў грамадзянскай супольнасці на працэсы ў краіне. Дыялог даваў Еўропе інструменты ўплыву на ўнутраную сітуацыю ў Беларусі".

"Ён быў перарваны правакацыяй спецслужбаў з расійскім следам", - сказаў Аляксандр Мілінкевіч пра падзеі 19 снежня 2010 года.

"Чым бліжэй да Еўропы, тым болей незалежнасці і правоў чалавека. Любы пазітыўны крок у бок Захада лепш, чым крокі, што вядуць да ўзмацнення залежнасці ад Расіі і страты суверэнітэту. Нашым лозунгам мусіць быць: "Болей Еўропы ў Беларусь!" Болей кантактаў, абменаў, народнай дыпламатыі", - сказаў Мілінкевіч.

Нагадаем, днямі з заявай "Болей Еўропы для Беларусі" наконт мадэрнізацыйнага дыялогу выступілі Рух "За Свабоду", кампанія "Гавары праўду" і Партыя БНФ.

Яе змест Аляксандр Мілінкевіч таксама прадставіў у Брусэлі, адзначыўшы: "Шырокая супраца з уладамі можа распачацца толькі пасля вызвалення палітычных вязняў. Дыялог Еўрасаюза з Беларуссю павінен рэалізоўвацца праз "дарожную мапу" паступовага збліжэння - "крок за крок". Галоўнай яго мэтай маюць быць заваёвы розумаў і сэрцаў беларусаў".

"Дыялог аб мадэрнізацыі" Мілінкевіч назваў надзвычай важным праектам: "Патрэбна шырокая папулярызацыя гэтай працы па ўсёй краіне: праз круглыя сталы, канферэнцыі, дыскусіі, заангажаванне мясцовых эліт і СМІ. Важна працягнуць у грамадстве дыскусію на тэму: "Пра якую Беларусь мы марым?". У выніку павінна паўстаць "Народная праграма" і вера ў магчымасць яе рэалізацыі, вера ў сябе і еўрапейскую перспектыву краіны".

www.рух.by

ПАЛІТЫЧНЫ ПЕРАСЛЕД

# ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ ПАДТРЫМАЛА ЗВОЛЬНЕНЫХ ЗА ІНШАДУМСТВА

**Адкрыты зварот ў абарону рабочых "Граніта" і выкладчыкаў Гродзенскагаўніверсітэтападпісаліпрадстаўнікіграмадзянскай супольнасці, сярод якіх лідар Руху "За Свабоду" Аляксандр Мілінкевіч, паэт і палітык Уладзімір Някляеў, гісторык Уладзімір Арлоў, спявак Лявон Вольскі, філосаф Валеры Булгакаў і іншыя знаныя асобы, паведамляе "Наша Ніва".**

***Зварот інтэлігенцыі***

У Беларусі працягваюцца звальненні з працы па палітычных матывах.

З Мікашэвіцкага прадпрыемства "Граніт" звольнены актывіст незалежнага прафсаюза Анатоль Літвінка. Раней з гэтага ж прадпрыемства былі звольненыя актывісты Беларускага незалежнага прафсаюза (БНП) Алег Стахаевіч, Мікалай Карышаў, Генадзь Паўлоўскі, Людміла Літвінка, Віталь Пашэчка, а з полацкага завода "Шкловалакно" – старшыня суполкі БНП Віктар Стукалаў.

З Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы па палітычных матывах звольнены прафесар Вячаслаў Швед. Раней у той жа навучальнай установе страціў працу дацэнт Андрэй Чарнякевіч. У знак пратэсту супраць палітычнага пераследу і пад ціскам з гэтага ўніверсітэта вымушаны быў сысці старшы выкладчык Ігар Кузьмініч.

Звальненне з працы па палітычных матывах – не толькі парушэнне працоўнага заканадаўства і міжнародных абавязацельстваў у рамках Міжнароднай арганізацыі працы. Гэта парушэнне Канстытуцыі і законаў Беларусі, чаго ўлады не могуць не разумець, і тым не менш не спыняюцца ў сваіх дзеяннях.

Мы лічым, што гэта адбываецца не толькі таму, што пазбаўленне працы, пагроза звальнення – механізм узддзеяння на іншадумцаў унутры краіны, нагнятанне атмасферы страху.

Гэтаяшчэінструментзамежнай палітыкі, які скарыстоўваецца менавіта тады, калі назіраюцца тэндэнцыі да нармалізацыі адносінаў з Еўрасаюзам.

І кожны раз гэта робіцца для таго, каб абвастрыць адносіны з аб'яднанай Еўропай. Ва ўладзе ёсць людзі, якія не хочуць, каб адносіны Беларусі з еўрапейскай сям'ёй народаў паляпшаліся. Пакуль гэтыя сілы будуць мець уплыў, датуль яны будуць напружваць сітуацыю, скіроўваючы Беларусь на ўсход, у Расію. Менавіта яны з'яўляюцца "пятай калонай".

Такая палітыка вельмі небяспечная, бо можа прывесці да страты незалежнасці. Таму мы заклікаем усіх, у тым ліку тых прадстаўнікоў улады, якім насамрэч дарагая Беларусь, супрацьстаяць гэтай "пятай калоне".

Мы заклікаем беларускае грамадства выказаць салідарнасць з усімі, каго звальняюць з працы, выключаюць з навучальных установ, падвяргаюць пераследу па палітычных матывах. Мы заклікаем дапамагаць ім маральна і матэрыяльна.

Мы заклікаем Міжнародную арганізацыю працы, прафсаюзныя арганізацыі, міжнародную дэмакратычную супольнасць адэкватна адрэагаваць на парушэнні ў Беларусі аднаго з асноўных правоў чалавека – права на працу.

Мы патрабуем ад уладаў безумоўнага выканання працоўнага заканадаўства і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

НАВУЧАННЕ

# ШКОЛА МАДЭРНІЗАЦЫІ АДКРЫЛАСЯ Ў ВІЦЕБСКУ І ПОЛАЦКУ

**Навучанне арганізаванае намаганнямі актывістаў Руху "За Свабоду" на базе мясцовых Еўраклубаў.**

Першыя заняткі у Віцебску 30 сакавіка правеў палітолаг Юры Чавусаў. Да працы ў школе будуць запрашацца эксперты ў галіне мясцовага самакіравання, рыначнай эканомікі, правазнаўства, працы СМІ, грамадзянскай супольнасці, рэформаў ЖКГ, адукацыі, аховы здароўя, сацыяльнай абароны.

Грамадскія актывісты (пераважна – моладзь) будуць праходзіць навучанне два разы ў месяц па дысцыплінах "Дзяржаўны стан у дэмакратычнай краіне", "Грамадзянская супольнасць", "Мясцовае самакіраванне".

Слухачы школы таксама ўдасканаляць свае веды па ангельскай мове. Асобным радком будуць праходзіць заняткі па практычнаму выкарыстанню беларускай мовы

"Маладым давядзецца праводзіць мадэрнізацыю краіны. Яны павінны ведаць ужо зараз, як мусіць выглядаць дзяржава і грамадства ў дэмакратычнай Беларусі і якія трэба правесці рэформы ў палітычнай, эканамічнай і сацыяльнай сферы, каб Беларусь заняла гістарычна прызначанае ёй месца ў сям'і Еўрапейскіх краін", – кажа ініцыятар стварэння школы, каардынатар Руху "За Свабоду" па Віцебшчыне Хрыстафор Жаляпаў.

ПРАБЛЕМА ЭКСПАРТА

# БЕЛОРУССКИЙ ЭКСПОРТ СТАГНИРУЕТ ПОСЛЕ ПОТЕРИ «ВИТЕБСКОГО ЧУДА»

**Результаты внешней торговли в первые месяцы 2013 года показывают, что объемы белорусского экспорта остаются на невысоком уровне, который сложился после прекращения «растворительного» бизнеса. Достойной альтернативы «витебскому чуду» так и не нашлось. Белорусский экспорт стагнирует, «палочка-выручалочка» просматривается только одна – калийные удобрения.**

***Белорусские «растворители» получили продолжение в Казахстане***

В январе-феврале экспорт белорусских товаров составил 6,18 млрд. долларов, что на 1,3 млрд. меньше по сравнению с аналогичным периодом прошлого года.

Главная положительная новость внешней торговли товарами состоит в том, что, несмотря на заметное снижение экспорта, отрицательное сальдо находится в умеренных пределах, которое удается перекрывать за счет положительного сальдо, достигнутого во внешней торговле услугами.

Плохая новость — темпы роста экспорта явно отстают от запланированных и происходит так потому, что компенсировать отсутствие растворителей в экспортной корзине Беларуси так пока ничем и не удалось.

В 2012 году, напомним, одним из главных драйверов экспорта считалась Витебская область, получившая известность за счет «растворительного» бизнеса. Прекращение оного привело к тому, что теперь Витебщина не является локомотивом белорусского экспорта и вернулась, если говорить о внешнеторговой деятельности области, на свой естественный объем поставок продукции на внешние рынки.

Как видим, «витебского чуда» больше нет. В то же время белорусский экспорт стагнирует: его месячный объем составляет 3-3,2 млрд. долларов, хотя благодаря «чуду» в прошлом году Беларуси удавалось увеличивать этот показатель до 4-4,5 млрд. долларов в месяц.

Впрочем, схема экспорта нефтепродуктов под видом растворителей, из-за которой Москва обиделась на Минск, получила продолжение в рамках Единого экономического пространства. «Растворительным» бизнесом стал заниматься Казахстан.

«В Беларуси экспорт «растворителей» был остановлен в августе 2012 года, но теперь эстафету у Беларуси принял Казахстан. Там экспорт моторного топлива запрещен и поэтому вместо бензина Казахстан сейчас экспортирует «растворители», — рассказал на этой неделе во время минской конференции, посвященной нефтепереработке, эксперт Thomson Reuters Александр Ершов.

Что касается белорусских растворителей, то они теперь совсем не те, что были. Если год назад средняя цена белорусских «растворителей» совпадала со стоимостью нефтепродуктов, то в 2013-м все встало на свои места. Теперь белорусские растворители стоят примерно в полтора раза дороже нефтепродуктов, а их объемы экспорта сократились по сравнению с прошлым годом в сотни раз.

Все это свидетельствует о том, что «растворительный» бизнес, получивший широкий размах в прошлом году, в прежнем виде прекратился, и в новом году Беларусь не смогла его возобновить.

***Вся надежда на удобрения***

В условиях, когда «растворительного» бизнеса больше нет, у Беларуси появилась насущная необходимость чем-то заместить пробел в торговом балансе, чтобы удержать месячные объемы экспорта на высоком прошлогоднем уровне. Ключевой вопрос: за счет чего этого можно добиться?

Есть основания полагать, что по итогам года калийные удобрения внесут существенный вклад в рост белорусского экспорта. Предпосылок для такого прогноза несколько. Во-первых, отраслевые эксперты ожидают, что во втором полугодии, о чем ранее писала интернет-газета Naviny.by, на мировом рынке вырастут цены на калийные удобрения. Кроме того, участники рынка прогнозируют и увеличение объемов потребления хлоркалия.

«В 2011 году объем потребления хлоркалия в мире составил порядка 54 млн. тонн, в 2012-м этот показатель снизился до 50 млн. тонн. В 2013-м ожидается восстановление рынка, годовой объем потребления хлоркалия оценивается в нынешнем году на уровне 55 млн. тонн», — сообщил Naviny.by эксперт калийной отрасли.

В нынешнем году Беларусь уже подписала контракты на поставку хлоркалия в Китай и Индию. Кроме этого, по итогам недавнего визита в Индонезию белорусская сторона подписала несколько контрактов на 400 млн. долларов, а, учитывая, что экспорт Беларуси в эту страну на 80-90% формируют калийные удобрения, несложно предугадать, какие именно соглашения были заключены.

Проблема Беларуси состоит в том, что таких конкурентоспособных товарных позиций как калийные удобрения в экспортном портфеле нашей страны немного. Считанные белорусские товары могут успешно продаваться в разных уголках мира.

«В нашем экспорте существует фундаментальная проблема, связанная с конкурентоспособностью продукции, и мы не решим ее за счет увеличения экспорта калийных удобрений или нефтепродуктов. Если наши товары, поставляемые в Россию, не будут конкурентоспособны на рынках вне СНГ, то у нашего торгового баланса будут неприятные перспективы», — полагает научный директор Исследовательского центра ИПМ Ирина Точицкая.

По мнению эксперта, в настоящее время не видно, за счет чего Беларусь могла бы значительно увеличить в 2013-м объемы экспорта по сравнению с уровнем 2012 года.

Статистика первых месяцев нынешнего года подтверждает, что для экспортного бума пока действительно не видно оснований. В январе-феврале по большинству товарных позиций, экспорт которых по сравнению с аналогичным периодом прошлого года увеличился, прирост не превышал 10 млн. долларов. Мало того, экспорт таких важных для Беларуси товаров (грузовых автомобилей, нефтепродуктов, тракторов) в январе-феврале даже сократился (как в денежном, так и в физическом выражении) по сравнению с аналогичным периодом прошлого года.

**Дмитрий ЗАЯЦ, "БЕЛАПАН"**

ЭНЕРГЕТЫКА

# СЛАНЦАВАЯ «РЭВАЛЮЦЫЯ»: НАСТУПСТВЫ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

**Пачатак здабычы сланцавага газу ў краінах Эўропы можа стаць адчувальным ударам для Расеі, якая ў такім выпадку страціць пазыцыі галоўнага пастаўшчыка прыроднага газу на Захад. Апроч таго, Злучаныя Штаты з найбуйнейшага імпартэра паліва паступова пераўтвараюцца ў краіну-экспартэра — зноў жа дзякуючы сланцавым распрацоўкам. Як супрацьстаяньне на газавым рынку адаб’ецца на Беларусі, якая, ня маючы ўласных запасаў, застаецца цалкам залежнай ад зьнешніх фактараў?**

Дасьледчыкі канстатуюць: распрацоўкі сланцавага газу ў ЗША і падрыхтоўка адпаведных пляцовак у Польшчы і Украіне падрываюць доўгатэрміновыя пэрспэктывы «Газпрому» і, як вынік, усёй эканомікі Расейскай Фэдэрацыі. У 2012 годзе Амэрыка здабыла 260 мільярдаў кубамэтраў сланцавага газу, і ў агляднай пэрспэктыве гэты паказьнік можа амаль падвоіцца. Паводле разьлікаў, разьведаных запасаў хопіць амэрыканцам больш чым на 100 гадоў. Такім чынам, ЗША ня толькі паступова выходзяць на самазабесьпячэньне гэтым палівам, але і маюць усе падставы распачаць яго экспарт, у тым ліку і на эўрапейскі кантынэнт.

Як перакананы эканамічны аглядальнік Алесь Герасіменка, такі расклад будзе выгадны і Беларусі — кошт сланцавага газу істотна меншы за кошт прыроднага, які прадае Расея:

«Напрамак сапраўды вельмі пэрспэктыўны, у чым ЗША пераканалі ўжо ўвесь сьвет. Яшчэ нейкіх пяць гадоў таму пасьмейваліся, у тым ліку і ў „Газпроме“, з такіх пэрспэктыў, але летась ужо мусілі і ў Крамлі, і ў „Газпроме“ заявіць пра вельмі сур’ёзную пагрозу іхнім інтарэсам у Эўропе. Ужо праз пару гадоў, як плянуецца, Амэрыка пачне актыўны экспарт сланцавага газу ў Эўропу, і, адпаведна, пазыцыі „Газпрому“ на гэтым рынку могуць здорава пахіснуцца, бо па цане расейскі прыродны газ неканкурэнтаздольны. Тыя ж амэрыканцы гатовыя прадаваць сланцавы газ як мінімум на 100 даляраў таньней за 1000 кубічных мэтраў. Для Беларусі гэтае пытаньне тым больш стратэгічнае, што мы цалкам залежым ад расейскага газу. І калі ў нас зьявіцца альтэрнатыўная крыніца такога паліва, то гэта можна толькі вітаць».

Пошукі сланцавага газу распачатыя і ў суседніх зь Беларусьсю Польшчы і Украіне. Гэтая актыўнасьць таксама напружвае Маскву, бо пагражае стратай істотных рынкаў збыту. Так, згодна з ацэнкамі Дзяржаўнага геалягічнага інстытуту Польшчы, запасы сланцавага газу ў краіне перавышаюць 5 трыльёнаў кубамэтраў. Пры штогадовай патрэбе на ўзроўні 15 мільярдаў кубамэтраў, радовішчы забясьпечаць сыравінную незалежнасьць палякаў на шмат дзесяцігодзьдзяў. Агэтазначыць, Польшча ў пэрспэктыве можа цалкам адмовіцца ад расейскага газу. Пра істотныя залежы сланцавага газу гавораць і ва Украіне, дзе, працягвае эканамічны аглядальнік Алесь Герасіменка, таксама вядзецца падрыхтоўка радовішчаў. А вось Беларусь хоць і дэклеравала намер заглыбіцца ў нетры, але ўсе акалічнасьці гэтага пакуль трымаюцца ў таямніцы:

Паводле наяўных зьвестак, беларускія ўлады вызначылі восем участкаў для пошуку радовішчаў сланцавага газу. Тры зь іх — у Падляска-Берасьцейскай упадзіне на мяжы з Польшчай, астатнія — у Прыпяцкім прагібе на разьлеглай тэрыторыі Гомельскай, Магілёўскай і Менскай абласьцей.

Тым часам расейскі газавы манапаліст «Газпром», усур’ёз напалоханы пагрозай перадзелу газавага рынку, намагаецца максымальна забясьпечыць сябе доўгатэрміновымі кантрактамі. З падачы Крамля адноўленая ідэя пракладкі другой ніткі газаправоду Ямал-Эўропа праз Беларусь. Праўда, улады Польшчы пакуль вагаюцца, ці варта пагаджацца на гэты праект, маючы такія пэрспэктывы са сланцавым газам.

Эўрапейскія пакупнікі ўсё больш настойліва дамагаюцца прывязкі да спотавых, то бок бягучых, коштаў на газ, што гарантуюць пастаўшчыкі сланцавага газу. «Газпром» жа намагаецца замацаваць пакупнікоў шматгадовымі контрактамі, якія не дазваляюць нічога карэктаваць нават ва ўмовах падзеньня цэнаў на ўсясьветным рынку. Паводле экспэртных ацэнак, пры цяперашніх тэмпах сланцавай рэвалюцыі экспарт газу з Расеі ўжо бліжэйшым часам зьнізіцца на 70 мільярдаў кубамэтраў штогод.

**Ігар Карней, “Радыё Свабода”**

КАРУПЦЫЯ КВІТНЕЕ

# ДЫРЭКТАРА ЦЭНТРА АЛІМПІЙСКАГА РЭЗЕРВУ АБВІНАВАЦІЛІ Ў КРАДЗЯЖЫ 42 МІЛЬЁНАЎ

**Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу ў дачыненні да дырэктара Мінскага гарадскога цэнтра алімпійскага рэзерву па веласіпедным відах спорту. Яму інкрымінуецца крадзеж сродкаў цэнтра з дапамогай «мёртвых душ».**

Як паведамілі «Штодзённіку» ў Следчым камітэце, крымінальная справа ўзбуджаная па матэрыялах Упраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі ГУУС Мінгарвыканкама. Дырэктару ДУ "Мінскі гарадскі цэнтр алімпійскага рэзерву па веласіпедным відах спорту» інкрымінуецца здзяйсненне злачынства па ч.4 арт.210 Крымінальнага кодэкса Беларусі (крадзеж шляхам злоўжывання ўладай або службовымі паўнамоцтвамі, здзейсненае арганізаванай групай альбо ў асабліва буйным памеры).

Санкцыя гэтага артыкула прадугледжвае пакаранне да 12 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

Паводле дадзеных Следчага камітэта, дырэктар ДУ "Мінскі гарадскі цэнтр алімпійскага рэзерву па веласіпедным відах спорту» са снежня 2005 года па жнівень 2012 здзейсніў крадзеж больш за 42 мільёнаў рублёў цэнтра.

Крадзеж здзяйснялася вельмі немудрагелістым і даволі распаўсюджаным у дзяржструктурах спосабам - праз фіктыўнае працаўладкаванне ў штат цэнтра асоб, якім налічвалася зарплата.

Так у снежні 2005 года па ўказанні дырэктара ў штат ДУ "Мінскі гарадскі цэнтр алімпійскага рэзерву па веласіпедным відах спорту" на пасаду кіроўцы быў працаўладкаваны жыхар Мінска. На самой справе кіроўца не прапрацаваў у цэнтры ні аднаго дня, а ўсе сем гадоў дырэктар атрымліваў за яго заработную плату і нават камандзіровачныя. Паводле падлікаў следчых, за гэты час падазраваны незаконна паклаў у сваю кішэню каля 42.600.000 рублёў.

Зрэшты, гэта толькі пачатак расследавання. Ужо зараз вядуцца допыты іншых службовых асоб, якія за сем гадоў павінны былі бачыць, што ў цэнтры фіктыўна працаўладкаваны людзі, але чамусьці маўчалі. Акрамя таго, зараз правяраюцца і іншыя фінансавыя аперацыі ДУ "Мінскі гарадскі цэнтр алімпійскага рэзерву па веласіпедным відах спорту».

Варта адзначыць, што крадзеж сродкаў праз фіктыўнае працаўладкаванне неіснуючых асоб, з'яўляецца сёння самым распаўсюджаным чынавенскага крадзяжу. Асабліва распаўсюджаны гэты спосаб у сістэме ЖКГ, але і ў беларускім спорце, як відаць, таксама.

**Георгі Дань «Штодзённік»**

СКАРАЧЭННЕ ШТАТАЎ

# ЧАМУ ЛУКАШЭНКА НЕ БАІЦЦА СКАРАЧАЦЬ ЧЫНОЎНІКАЎ?

**Кіраўнік Беларусі загадаў скараціць дзяржапарат на 25 працэнтаў. Што гэта — чарговы піяр ці вымушаны крок? Ці сапраўды чыноўнікаў стане менш? На пытанні Радыё "Свабода" адказвае галоўны рэдактар "Новага Часу" Аляксей Кароль.**

*— Выглядае, што кіраўніцтва дзяржавы прыйшло да разумення неабходнасці скарачэння чынавенскага апарату. Але якія прычыны падштурхнулі да такога рашэння — эканамічныя, арганізацыйныя, прапагандысцкія?*

— Тут шэраг складнікаў, і эканамічны выглядае самай відавочнай прычынай. Другая прычына — скарачэннем апарату Лукашэнка працуе на свой імідж, у падтрымку сацыяльнай дамовы з насельніцтвам. Даецца яўны сігнал, мэта якога — вяртанне даверу электарату.

Трэці складнік — скарачэнне апарату як выйсце з эканамічнага тупіку адбываецца паводле лякалаў савецкай бюракратычнай цэнтралізаванай сістэмы. Аднак Лукашэнка іншай ня ведае, і працуе па адпрацаванай гадамі схеме. Але тыя савецкія скарачэнні эфекту не давалі, пасля кожнага апарат зноў вяртаўся ды тых самых памераў і нават вырастаў.

*— Магчыма, варта скарачаць функцыі, а не людзей?*

— Трэба мадэрнізаваць сістэму, каб яна была самарэгулюемай. А такой сістэмай у палітыцы з’яўляецца дэмакратыя, а ў эканоміцы — свабодная эканоміка.

*— Палітолагі адзначаюць, што сваімі дзеяннямі апошнія месяцы Лукашэнка сапраўды хоча выклікаць любоў большасці электарату — паездкі на заводы, пасадкі чыноўнікаў. Аднак ці не баіцца ён такімі дзеяннямі выклікаць незадавальненне чыноўнікаў?*

— Я думаю, што скарачэнне закране ў асноўным сярэднія ці ніжнія звёны і не закране верхатуру. А сістэма самазахавання ўлады замкнёна на вяршыні пірамiды, а там калі і будзе бізун, то будзе і пернік. І гэтая сістэма ў гэтым сэнсе дастаткова ўстойлівая.

**http://www.svaboda.org**

# У КАЗНЕ НЯМА ГРОШАЎ НА БЫЛЫХ ЧЫНОЎНІКАЎ

**Міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна накіравала ў Палату прадстаўнікоў праект зменаў закона аб дзяржслужбе, які зробіць роўнымі звольненых з дзяржорганаў чыноўнікаў з астатнімі смяротнымі.**

Чыноўнікам, супрацоўнікам пракуратуры, Следчага камітэта і іншых дзяржаўных органаў, якія патрапяць пад кампанію скарачэння штатаў, спадзявацца не будзе на што. Дзяржава выршыла адмяніць усе раней прадугледжаныя для такіх выпадкаў льготы, піша "Народная воля".

Сёння тым, хто аказваецца без працы па скарачэнні штатаў або ў сувязі з ліквідацыяй арганізацыі, пакладзена выхадная дапамогу ў памеры трох месячных акладаў і далей дзяржава гарантуе толькі мізэрную дапамогу па беспрацоўі, калі чалавек зарэгіструецца беспрацоўным у службе занятасці. Аднак для дзяржслужачых прадугледжаны іншыя правілы.

На дадзены момант "Закон аб дзяржаўнай службе" прадугледжвае мноства гарантый звольненым чыноўнікам. У прыватнасці, ён вызначае, што пры вызваленні дзяржаўнага чыноўніка ў сувязі з ліквідацыяй дзяржаўнага органа, скарачэннем колькасці або штату работнікаў яму:

- Павінна быць прапанаваная іншая дзяржаўная пасада з улікам яго прафесіі, кваліфікацыі і займаемай раней пасады;

- Гарантуецца пры немагчымасці працаўладкавання перападрыхтоўка па накіраванні дзяржаўнай службы занятасці насельніцтва з выплатай за ўвесь перыяд навучання стыпендыі ў памеры сярэднямесячнай заработнай платы па займаемай да звальнення пасадзе;

- Выплачваецца выхадная дапамога. Тым, хто прапрацаваў да 5 гадоў - у памеры трох сярэднямесячных заработных плат, ад 5 да 10 гадоў - у памеры чатырох сярэднямесячных заработных плат, ад 10 да 15 гадоў - у памеры пяці сярэднямесячных заработных плат, больш за 15 гадоў - у памеры шасці сярэднямесячных заработных плат.

- Выплачваецца дапамога па беспрацоўі ў памеры сярэднямесячнай заработнай платы па займаемай да звальнення пасадзе;

- І іншыя.

Аднак гэтыя правілы вельмі хутка могуць быць зменены. Міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна накіравала ў Палату прадстаўнікоў праект зменаў закона аб дзяржслужбе, у адпаведнасці з якім усе гэтыя выплаты і даплаты будуць адменены.

На дзяржслужачых прапануецца распаўсюдзіць толькі тыя правілы, пад якія падпадаюць звычайныя грамадзяне, а гэта тры месячных аклады і дапамога па беспрацоўі, якая на дадзены момант складае 16,6 долара ў месяц. Ды і то пры ўмове абавязковага ўдзелу ў грамадскіх працах.

Пры гэтым у тлумачальнай запісцы да законапраекта Мар'яна Шчоткіна заўважыла, што ў базе вакансій службаў занятасці досыць месцаў, каб забяспечыць працай усіх звольненых. Праўда, на працу ў асноўным патрабуюцца столяры, слесары, муляры, вадзіцелі аўтобусаў і тралейбусаў, кандуктары, медсёстры, касіры, санітаркі...

**Ірына Мальцава “Народная воля”**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 16.04.2013 у 21.10.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.